# Хочаш жыць – жаніся, або Шлюб па прымусу

## *Смяхотная штука ў адной дзеі*

*Дзеючыя асобы*

**Ён** – круты бізнесовец, што выбіўся ў людзі з нізоў; дзякуючы спрыяльным умовам і ўласнай кемлівасці становіцца заможным, а таму ўпэўненым у сабе і сваёй дзейнасці; гадоў пад сорак; цалкам адпавядае ўсім стэрэатыпам, што лунаюць вакол падобных асоб, але з неверагоднымі зменамі, выкліканымі невытлумачальнай з'явай, якая генеруе ўсё дзеянне і інтрыгу.

**Яна** – ягоная памочніца, былая інтэлектуалка; зразумеўшы непатрэбнасць адукацыі ў наш час, хавае ў глыбіні душы ўсё назбіранае гадамі разумнае і вечнае ад людзей і, у першую чаргу, ад сябе; пад трыццаць, у адзенні і паводзінах, манеры трымацца дамінуе высакародны пачатак;

**Бабця** – мажардом, у гадах, спалучае народны светапогляд з сучаснымі навацыямі, энергічная, дасканала валодае інтрыгай;

**Цыганка** – традыцыйны, класічны тыпаж народнай смехавой культуры, дамінуюць нахабства і экспрэсія;

**Сваха** – адпавядае ўсім звыклым уяўленням, аднак, асучаснена, бо поруч з безцырымоннасцю, уласцівай прадстаўнікам яе прафесіі, дасканала валодае кампутарам і можа стварыць адпаведны сітуацыі імідж.

| | |
|---|---|
| **Advocātus Dei – Advocātus Diaboli** | у класічных мантыях і акадэмічных шапках, што дазваляе ім заўзята і беспакаранна несці сапраўдную лухту. |
| **Памочнікі адвакатаў** | цалкам адпаведныя сваім шэфам, але могуць выступаць у абліччах анёлкаў і д'яблікаў, херувімаў і чорцікаў, асабліва ў другім з'яўленні |

**Выявы служкаў культу, аховы, знахараў.**

Сцэна ўяўляе сабой звычайны пакой з велізарнымі кніжнымі шафамі, які потым з дапамогай святла трансфармуецца. Шмат

музыкі – класічнай, сярэднявечнай, сучаснай папсы, прыпевак. Наяўнасць танцаў і пантамім сведчыць аб выразным вадэвільным пачатку штукі. Праўда, некаторыя тэарэтыкі драматургіі лічаць, што вадэвіль сышоў са сцэны, саступіўшы месца мюзіклу. Дадзены твор і з'яўляецца спробай адраджэння добрага стагора класічнага вадэвіля.

**З'ява першая**

*Яна і Бабця. Ідуць з розных куткоў залы да сцэны.*

**Бабця** О, дарагая, і ты тут?

**Яна** А што здарылася? Чаго яму раптам так закарцела нас бачыць?

**Бабця** І сама не ведаю. Звоніць і амаль плачучы загадвае: "Прыязджай хутчэй, я ў новым катэджы. Чакаю!" – і павесіў слухаўку.

**Яна** Дык ён ужо некалькі тыдняў як сам не свой. Казаў, што з'едзе на пэўны час у свой новы дом, хоча пабыць адзін. Забараніў тэлефанаваць яму, адключыў усялякую сувязь.

**Бабця** Я думала, што ён хоча напоўніцу здаволіцца сваім апартаментамі, пра якія столькі марыў.

**Яна** Ой, як уеўся усім у пячонкі гэты замак.

**Бабця** І не кажы, я нават па сапраўднага кракадзіла ў Афрыку лётала. Каб яму…

**Яна** Каму?

**Бабця** І таму і другому; і яму, і гэтай рэптыліі. Мала скуры мядзведзя ля каміна, як у вас ўсіх ягоных сяброў? Экзотыку давай.

**Яна** Ды яшчэ якую!

**Бабця** Цьфу. Добра, што слана не захацеў. Во мелі б клопату. Уяўляеш?! Я са сланом ў аэрапорце.

**Яна** І мне звоніць. Просіць проыехаць, бо з ім, кажа, нешта творыцца незразумелае і страшнае.

**Бабця** Што ж там такое? Пабеглі хутчэй, каб, крый Божа, штосьці жахлівае не здарылася…

**Яна** Ой-ой. Але ж ён так змяніўся. І гаварыць пачаў па-іншаму.

**Бабця** І праўда. Куды дзеліся гэтыя прыблатнёныя выразы, жэсты. Што з чалавекам робіцца?

**Яна** Пойдзем хутчэй у святліцу.

**Бабця** Ага. Трэба спяшацца. Тым болей, я нешта прыдумала. Вясёленькае і карыснае для нашага гаспадара. І, спадзяюся, не толькі… *(шматзначна пазірае на яе).*

**З’ява другая**

*Заслона ўздымаецца*

*Ён, Яна, Бабця.*

**Ён** Маю грошы, маю я – мне ўсе тут не раўня. *(Любуецца сабою ў велізарным люстэрку; нават ходзіць па сцэне, кідаючы погляд на адлюстраваныя постаці ў шкле вялізных кніжных шафаў, закладвае руку за лацкан не існуючага мундзіра; паварочваецца, самазадаволена муркочучы)* Я самы, я самы, спытайце ў таты – мамы. Ух ты! Ваў-ў-ў. Якая прыгажосць у паглядзе, салiднасць у аблiччы, велiч у постацi, годнасць у жэстах – усім так шчодра ўзнагародзiла мяне доля. I, як мне падаецца, зусiм не выпадкова, а для нейкай вялiкай справы i мэты.

**Бабця** *(уваходзiць)* Рыхтык Буонапарт. *(Замiлавана, з прытворам)* Далiпантачкi прынц. З вамi ўсё ОК? А мы так баялiся… Так ляцелi…

**Яна** *(уваходзiць, з усмешкай)* **Природа-мать, когда б таких людей ты иногда не посылала миру, заглохла б нива жизни.**

**Ён** *(Не адказвае, але адчуваецца, што рэплiка надзвычай прыйшлася да спадобы, бо вачыма шукае-прымервае ўяўную трохвуголку.)* А-а. Гэта вы?! Нарэшце! Мяне ледзь не прымусiлi чакаць. Я паклiкаў вас, маiх памочнiкаў, бо тут, у гэтым новым доме, творацца незразумелыя рэчы. Адразу здаецца, што ўсё ў парадку, а потым пачынаюцца дзiвосы. Як быццам я станаўлюся зусiм iншым чалавекам, цi нешта ўсяляецца ўва мне.

**Бабця** Ой-ёй, ой-ёй, дарагi ты наш.

*Раптам на iмгненне тухне святло, чуецца лёгкi ўдар. Калi сцэна асвяцiлася,ён раптам збянтэжана выцягвае руку, спалохана зiркае па баках, аглядваецца, потым супакойваецца i пачынае маналог зусiм iншым тонам, голасам i стылем.*

**Ён** Знаходзячыся на сярэдзiне плынi жыцця i добра ўсведамляючы непарушальны закон быцця, зразумеў я, нарэшце, што трэба пакiнуць **памѣть о сѣбѣ не токмо в сокровищницахъ тлѣнныхъ, но и въ памѣте и животе нащадковъ** *(Iзноў збянтэжана змаўкае, а потым хапаецца за галаву i пачынае падвываць.)* Божа ты мой, лiтасцiвы i магутны, Божа ўсясiльны! За што мне такiя пакуты? За што ты мяне так пакараў? Якой небяспецы, таемнай i зласцiвай, падвяргаецца маё ўласнае здароўе i нават жыццё, такое, здавалася б, згарманiзаванае, прадуманае, улагодненае, мэтанакiраванае. Угоднае вышэйшым сiлам i мясцовым уладам.

**Яна** *(устрывожана)* Ой, што ж гэта з вамі робіцца?

**Бабця** *(крыху спалоханая, але ўпэўненая ў сабе)* Яшчэ і не тое будзе. Казала ж я, прасіла, засцерагала, папярэджвала: не слухай гэтага валацугу, гэтага валасаціка, гэтага прайдзісвета, бо страціш не толькі грошы…

**Яна** І дзе толькі ваш вялікі розум быў, калі вы згадзіліся на гэта?

**Ён** Казала, казала. Але ў яго былі такія рэкамендацыі ад лепшых фірмаў Еўропы. Ды і корашы гаварылі, што ён самы лепшы дылер і забеспячэнец рэгіёну, што ягоным дзедам быў сам *(дастае кішэнны гадзіннік, чытае)* **Павелъ Буре - поставщикъ двора его императорского величества.** *(усе смяюцца)*

**Бабця** Дзівосы на калёсах. Такія “поставщики двора” штодзённа шастаюць па ўсіх установах, нават пудзілы ад іх наладжваюць, клямкамі зашчэпваюцца.

**Яна** І я ж кажу. Трэба заўсёды спыніцца ў час.

**Бабця** *(хаваючы ўсмешку)* Ну, зрабілі табе мэблю прыстойную, нават з чырвонага дрэва, з карэльскай бярозы, хоць у гэтым я сумняваюся. Ну, пабудаваў ты сабе прыватную бібліятэку, паставіў шафы велізарныя…

**Ён** *(ківае і разводзіць рукамі, уздыхае)* Так, так. Як сказаў класік савецкай паэзіі, **Стили бывают разных Луёв**. Я выбраў інтэлектуальны Луі XV, бо без майго спрытнага розуму не змогуць разабрацца нават у дызайне.

**Бабця** (*здзіўлена ўздымае бровы)* Што?! Ой, прабачце, ніяк не прызвычаюся. Вельмі добра. І бар спатрэбіцца, і камін, і шафа… але навошта вы туды панастаўлялі кніжак, гэта да вас не падобна.

**Ён** Дык мне сказалі, што гэта *(чытае)* прыватны збор з бібліятэкі князёў Радзівілаў. Што я ім буду ганарыцца, усе будуць зайздросціць, а ягоная каштоўнасць расце з кожным годам. Гэта ж *(успамінае)* рарытэты, інкунабулы. Так кнігі называліся старажытныя, друкаваныя ў эпоху Гутэнберга.

**Бабця** Мы ведаем. Справа ў іншым: навошта еўнуху гарэм?

**Яна** Трэба было, як і ўсе разумныя людзі робяць, заставіць адпаведныя шафы муляжамі фаліянтаў – і прыгожа: адпаведны колер пад шпалеры можна падабраць, і гігіенічна: працёр мокрай анучай і ўсё.

**Бабця** І стэрыльна – асабліва ў адносінах да галавы. І надпіс зрабіць вялікі: Для знешняга карыстання.

**Ён** Без базару, я добра ведаю, што кнігі – зараза, пошасць. Я з дзяцінства іх ненавіджу. Не было большай асалоды, як ірваць іх на

шматкі. Нават буквар, нібы Астап Бульба, памятаеце кіно, надаўна круцілі, тры разы тапіў, за што лупілі неміласэрна.

**Бабця** Бедны хлопчык…

**Яна** Мала білі.

**Ён** Што?! Кніжкі… Якраз праз іхнюю пылоту ўсялякая нечысць пранікае, хваробы дыхання выклікаючы, алергію. Дык і якраз ад іх усе звадкі і пакуты на зямлі. Як гэты афіцэр гаварыў, памятаеш, у рэстаране на мінулым тыдні? Што з паручыкам Ржэўскім быў. І прозвішча ў яго адпаведнае. З усмешкай звязанае…

**Яна** Не з усмешкай, а з рогатам. А прозвішча сапраўды ў яго смешнае – Скалазуб. А усклікаў ён так – **собрать бы книги все, да сжечь!** Сказана, аднак, трошкі раней, гадоў гэтак на дзвесці.

**Ён** Праўда? А я і не ведаў, што ўжо тады з кніжкамі змагаліся, што яны такія магутныя.

**Яна** Яшчэ якія! Яшчэ як змагаліся!

**Бабця** Кнігі ва ўсе часы нязменна прыносілі людзям вялікую шкоду.

**Яна** Няхай яны і схаваныя за шклом, але нават і ў такіх варунках валодаюць велізарнай энергетыкай, здольнай нават і на параўнальна вялікай адлегласці безкантактна ўздзейнічаць на чалавека.

**Бабця** У суседнім доме ад кніг адзін прыстойны чалавек нават звар’яцеў, цяпер цешчу мамай называе, на “вы” да ўсіх звяртаецца, у магазін ходзіць, гарэлку не п’е, зарплату жонцы аддае.

**Яна** Ды такіх сотні можна налічыць. Імя ім – легіён.

**Ён** *(спалохана)* Ты што, праўда?! Ух, мярзотнікі! *(махае рукою ўбок шафаў)* Я ж, **за базар всегда отвечаю**, ні разу не зацікавіўся, узяўшы іх ў рукі, тым болей, барані Божа, ні разу нават не разгарнуў, ці, сілы нябесныя, прачытаў. Але ж яны, подлыя, і так робяць сваю чорную справу.

**Яна.** Як я вас разумею і спачуваю… Даўней кнігі пісалі пісьменнікі, а чыталі людзі, цяпер кніжкі пішуць чытачы, і ніхто іх не чытае. Вось чаму яны сталіся такімі. Ад злосці і пагарды мутацыя здрарылася.

**Ён** Так, так. Гэта эманацыя іх унутранай сакрэцыі.

**Яна, Бабця.** *(разам, спалохана)* Што-о-о?!?? Што вы сказалі?!! *(устрывожана)* З вамі ўсё ў парадку?

**Ён** *(не слухаючы)* Уздзеянне іх аўры настолькі ўсясільнае і магутнае, што я, чалавек, схільны да ўсяго, акрамя навукаў, стаў разумець стараславянскую мову і нават латынь. Прычым без маёй волі, без усялякага жадання з майго боку, нават наадварот. Сілай у

мяне нешта пранікла, адкінуўшы мой імунітэт. Я стаў нейкім іншым, сам сабе не пазнаю. І на хр…мне такое, ой, пшэпрашам, навошта мне гэта?

**Яна** Як я вас разумею…

**Ён** Ты не можаш мяне зразумець, гэта ж **не по понятиям**, толькі я адзін, ды і то не галавою, сцяміў. Бо цяпер жа я нават гавару ў адпаведным кніжным стылі, асабліва замучыла сярэднявечча праклятае. Медыявістыка паганая, гэта яна так па-іншаземнаму называецца, не проці ночы будзе сказана.

**Яна** Так, так.

**Ён** Якія ж гэта пакуты! Што са мною сталася. Быў я раней звычайным пацаном. А цяпер не магу нават пайсці ў прыстойную кампанію, бо там усе з мяне яны адкрыта смяюцца. З майго языка міжволі ў самых неадпаведных сітуацыях злятаюць пачварныя выразы: дэміург, ваша міласць, белагаловая, пані, шляхетнасць.

**Яна** Дык гэта ж добра.

**Ён** Што? Такая погань і брыдота. Цьфу, адным словам! Я не магу спакойна з людзямі пабазарыць. Нават цёлкі ад мяне шарахаюцца, забываючы пра грошы.

**Яна** І са мной было такое ж самае. Толькі значна раней, а таму ў крыху лягчэйшай форме і з выразна меншымі наступствамі-ўскладненнямі. Ну, не раўнуючы, як адзёр ці шкарлятына ў дзяцей.

**Ён** І ў цябе была прыватная радзівілаўская бібліятэка? Ты мне пра гэта не гаварыла *(паглядае на яе з цікавасцю).*

**Яна** Не! На жаль, не прыватная, хоць я і паходжу са слаўнага шляхецкага роду, які звязаны крэўным сваяцтвам з Радзівіламі, а дзяржаўная. Я ж ўсё здабывала сама. Вучылася ў бібліятэчным коледжы, а затым на філфаку ўніверсітэта.

**Ён** *(Ягонае захапленне пасля слоў шляхецкі ў канцы замяняецца выразным спачуваннем, але ў поглядзе нешта іскрыцца)*

Бедная, няшчасная! Прычым двойчы! Зло ў квадраце. Але ж ты вылечылася? Паспяхова? Назаўсёды? Не маўчы.

**Яна** Не зусім! Праўда, я адцуралася ад гэтых мярзотнікаў, як вы гаворыце, раз і назаўсёды. Але толькі пасля таго, як схавалася ад іх у хвалях Міжземнага мора, пасля драйву на каралавых рыфах, калі пачварная акула стала ўяўляцца шчырым сябрам, я пачала папраўляцца.

**Бабця** Спалі іх, песні, дым чырвоны. Трэба прымаць рашучыя меры. Клін клінам выбіваюць.

**Яна** Яны, пачвары, неадчэпныя. Як тыя васьміногі ці мядузы.

**Ён** І праўда. І гэтак жа не схопіш рукамі, не застрэліш з пісталета. І падбіраюцца ноччу, калі чалавек спіць або адпачывае пасля рэстарана.

**Яна** Так, так, яшчэ як неадчэпныя. Да гэтага часу ў кашмарах з'яўляюцца, пакуль іх каракаціца ці дэфолт які-небудзь не разгоніць.

**Ён** Ой-ой-ух! Гэта ж немажліва. Мае **кореша** спачатку дзівіліся, потым падсмейваліся, а цяпер ля скроні шматзначна пальцам круцяць ці адкрыта грэбуюць і дэманстратыўна абыходзяць. Хутка мяне ні ў казіно, ні ў бары з рэстаранамі, ды і наогул у прыстойныя дамы не пусцяць, прыйдзецца ісці ў згаданую праклятую бібліятэку, ці барані Божа, у тэатр або нават, не проці ночы сказана, у філармонію.

**Бабця** Бедненькі.

**Ён** Што ж тады будзе са мною, з маім бізнесам, з маімі даходамі? Маім іміджам, нарэшце… Ну і хмарню жа я нясу.

**Яна** Ну, і што, станеце мудрацом.

**Бабця** Адукацыя паганая для ўсіх, але асабліва шкодзіць тым, хто мае схільнасць да творчасці ці камерцыі. Адукацыю трэба пакідаць вучоным і чыноўнікам, ды нават іх яна схіляе да алкагалізму і казнакрадства.

**Яна** Дык можа будзеце вучоным, прафесарам ці нават акадэмікам.

**Ён** Ты што, звар'яцела ці блёкату аб'елася, **крыша поехала**? Вунь мой калега заўсёды піша ў аўтабіяграфіі, праліваючы зусім не кракадзілавыя слёзы – я нарадзіўся ў беднай прафесарскай сям'і і маё дзяцінства прайшло страшэнна пагана: у галечы сярод кніг, інтэлігентных размоў і іншых злыбедаў. Не хапала, каб і мае нашчадкі заяўлялі – **в детстве у меня не было детства.** Гэта Горкі. Чула?

**Яна** Чула, на вялікі жаль, бо і ў мяне было тое самае. *(Чуецца званок далькажыка)* Я не магу гаварыць.Ператэлефаную. Прабач, дарагі.

**Ён** *(здзіўлена глядзіць на яе, але апантаны іншым)* Мудрацы… *(зняважліва)* Каму яны патрэбны. Як там гаворыцца ў кнігах?

**Голас з-за сцэны** Платон заяўляў, што **блаженны государства, в которых философы повелевают либо властители философствуют.**

**Ён** Глупства. Ды не было ва ўсе часы страшнейшай заразы для краіны, калі правадыры маюць гешэфт з навукай ці філасофіяй.

**Голас з-за сцэны** А мудрацы наогул прыстасаваны да грамадскай справы, як асёл для ігры на ліры.

**Яна** І я ведаю такіх, не будзем паказваць пальцам.

**Голас з-за сцэны** Запрасі яго на пір – ён адразу ўнясе сумяціцу сваім надутым маўчаннем або пытаннямі зусім не да месца. Запрасі на танцы – заскача як вярблюд; пакліч на свята – адным выглядам сваім сапсуе ўсім настрой. Калі ўмяшаецца ў размову, напужае ўсіх, як воўк, скасуе ўсе здзелкі. Ні сабе самому, ні грамадству, ні людзям ні ў чым не прыносіць карысці.

**Ён** *(Не звяртаючы ўвагі, злякана)* Няўжо і я такім стану?!?

**Бабця** Ну, я спадзяюся, што да гэтага не дойдзе. І выглядаеце вы пакуль што зусім здаровым.

**Яна** Уплыву хваробы інтэлектуалізму на вашым аблічччы да этага часу, слава Богу, не заўважаецца. **В целом лицо не обезображено интеллектом.**

**Ён** *(з надзеяй)* Праўда?!! Рады чуць.

**Яна** Праўда! Праўда! **Век воли не видать.** Не сумнявайцеся. Лятальнага зыходу не будзе. Скажу і я на латыні ў гэтым разумным доме. **Facies hippocratica** г.зн. **Лицо, отмеченное печатью смерти,** таксама пакуль што не праглядаецца.

**Бабця** Эх, і я разгавеюся ў шляхетнай кумпаніі: Мне здаецца, што відаць толькі **ex auribus asinum** (па вушах асла пазнаюць).

**Ён** *(з палёгкай уздыхае)* Прычым тут вушы?! Тым болей аслініыя. Мне вушы не баляць, а таму зусім не хвалююць. Якія яны маюць адносіны да хваробы?! *(Яна і Бабця смяюцца)* А ці можна зусім вылечыцца? Я ж нічога не пашкадую: ні грошай, ні маёмасці, усю бацькоўскую і ўласную гаспадарку спушчу. Толькі папярэджваю, ні Мальдзівы, ні Карлавы Вары, ні "Нардзін" не дапамаглі. А як мяне лячылі, колькі грошай ляснула, колькі лекараў за мае грошы свет пабачылі, кватэр набудавалі, каханак завялі.

## З'ява трэцяя

*Ідуць сцэны лячэння ў класічным стылі беларускіх інтэрмедый, да якіх далучаюцца сучасныя атрыбуты: градуснікі, клізмы, п'яўкі, простыні, ставяць гаршкі замест банак і ўсё праз касу, дзе лічаць грошы. Толькі лякуюць негры і папуасы. З'яўляюцца адпаведныя балетныя і вакальныя нумары тыпу "Мой міленькі захварэў, кісялёчку захацеў". Можна згадаць Мальера.*

**Яна** *(грэбліва назіраючы за ўсім)* Трэба быць з народам і ў шчасці, і ў горы. Таму па здароўе трэба ехаць у беларускую Турцыю або на расейскую Нарач; лячыцца п'яўкамі роднымі, а не пачварнымі чужымі вірусамі. Не шукаць чараўнікоў буду-вуду з племені танту-

банту, а лячыцца ў мясцовых шаптух і знахарак. Піць не тэкілу з кактусаў, а "Крыжачок", не шатландскую самагонку з гордым імем "уіскі", а родную карчоўку…

**Бабця** Лепш за ўсё хойніцкую або ельскую. Натуральную. Чыста хлебную. Паводле старажытнага рэцэпту: місачка мукі – мяшок цукру. Чыста хлебная.

*Гучыць песня В. Шалкевіча, падчас якой удзельнікі балета знікаюць :*

Казалі мне, што я страшэнны нацыянальны пень
Бо ўжо з маленства самага малога
І бацька мой, і маці так выхоўвалі мяне
У духу непавагі да чужога.

Прыпеў:
Ня пі, сынок, віна азербайджанскага "Агдаму"
Хай пьюць яго азербайджанцы самі гультаі-лагцаі
Ня пі, свіньня, маскоўскае гарэлкі, слухай тату і маму
А калі будзе кепска, то нашае, палескай,
Сапраўднай самагонкі глытані.

З тых пор прайшло амаль паўвеку, але як і тады
Я запавет бацькоў нашу ў сэрцы
У рот не бяру ані чужой гарэлкі, ані чужой яды
З паганага заморскага відэльца.

Прыпеў.

Няхай жыцьцё ня раз мяне душыла і таптала
Няхай у морду лез малы і велькі гнюс
Я выпью самагонкі, я з'ем кавалак сала
І зноў я чалавек – я беларус!

**Ён** *(спалохана)* Што ж рабіць? Я згодны на любую разборку, цьфу, аферу.

**Бабця** О раны Боскія! Не хвалюйцеся так. Не бойцеся. Чым лягчэйшы страх, тым, адпаведна, меншая небяспека. Я ведаю, як можна вылечыцца.

**Ён** Здагадваюся, што найперш патрэбна гэтыя, не хачу іх называць, ну так званыя кніжкі выкінуць. Гэтыя пылазборнікі, гэтую

атруту, опіўм для народа… Ды я хоць зараз, хоць і грошай шкода. Паклічце людзей… Хай…

**Яна** Пачакайце. Не спяшайцеся.

**Бабця** Нельга так з матэрыяльнымі артэфактамі. Лепш каму-небудзь перадаць па прызначэнню. Гэта ж сапраўдны скарб. Я гавару сур'ёзна. У вас унікальны кнігазбор. Гэта ўжо ўсе адчулі па вашых рэпліках, якія пранiклі ў вам розум незалежна ад вашага жадання. Бібліятэку складаў талковы спецыяліст, які добра ведае і любіць класічную літаратуру.

**Ён** І праўда. Я столькі грошай выкінуў на вецер. Думаў, спадзяваўся, што гэта не толькі мне гонару і славы дабавіць, але і зараблю сёе-тое. Па старой звычцы не магу нікуды ўкласці хоць грош, каб не зарабіць рубель.

**Бабця** Для гэтага былі адпаведныя падставы. Так, у мой час за поўны збор “Библиотеки мировой литературы” давалі “Запарожець” ці нават “Москвич”, калі добра патаргавацца. Для тых, хто не ведае, ці забыўся, бо позна нарадзіўся, скажу, што былі такія легкавушкі савецкай вытворчасці, маленькія, нібы цяперашнія “Matiz” ці “Polo”, не раўнуючы. Кнігі былі добрым пасагам, нібы ў старажытнасці.

**Ён** А цяпер?! Я б “Mersedes” узяў бы за бібліятэку, шасцісоты. Ці нават “Volvo”.

**Бабця** Канешне, узяў бы. І слон з'еў бы гару бананаў, калі б нехта даў яму. А вось ці дадуць? Салтыкоў-Шчадрын пісаў у XIX ст., што цяпер за рубель даюць паўфранка, а хутка будуць даваць у морду.

**Яна** Нельга ж так… Кнігі - гэта не тавар. Нельга ўсё зводзіць да прымітыўнага: грошы – тавар – грошы. Гэта не жалязякі, не ўгнаенні. Іх трэба берагчы, бо яны захоўваюць мудрасць стагоддзяў.

**Ён** А ты ж толькі што іншае гаварыла?! Што ж ты, як той флюгер. За базар адказваць трэба.

**Яна** Кожная зніклая кніга – гэта міні-трагедыя для чалавека і для грамадства. А трагедыя ўсяленскага маштабу – спаленая Александрыйская бібліятэка…

**Бабця** У аднаго прафесара таксама згарэла бібліятэка – вось гэта гора. Згарэлі ўсе тры кніжкі, адна з іх нават не размаляваная да канца. *(выходзіць за кулісы, ціхенька шэпчучы)* Зараз я дам вам чаду *(гучыць “Крэўская полька” з “Народнага альбома”: “Гэй, музыкі, грайце польку, грайце да самага золку”). Бабця ўзмахвае рукамі.)* Кнігі… Літаратура… Ад іх усе звадкі на зямлі. Начытаюцца, а потым усе хочуць, каб жыццё іх было такое, як у кніжках.

**З’ява чацвёртая**

*Тыя ж і адвакаты.*

*Раптам усе здзіўлена замаўкаюць. Музыка сціхае. Тухне святло, а калі запальваецца, на пярэднім плане стаяць адвакатусы ў адпаведным абліччы, за імі, калі патрэбна, іх памочнікі пакуль што ў класічным выглядзе.*

**Advocatus Dei** На пачатку ўсяго было СЛОВА, і слова было ў БОГА, і СЛОВА было БОГ. З вышэйшай сілы, з сусветнага розуму нарадзілася СЛОВА і ЛІТАРАТУРА. СЛОВА спрадвечнае звязана з агнём, вогненным каменем, зарніцай Новага жыцця, пачаткам спасціжэння ўсяго.

**Голас з-за сцэны Никогда пророчество не было произносимо по воле человеческой, но изрекали Его святые Божии человеки, будучи движимы Духом Святым.**

**Advocatus Diaboli** Аднак чалавек не заўсёды гаворыць з Богам, бо трапляюцца яму, і прытым значна часцей, іншыя субяседнікі. Таму і сакралізацыя слова аказалася няпоўнай, чалавеку хацелася больш гаварыць пра віно, жанчын, радасці жыцця, чым пра вечнае жыццё.

**Голас з-за сцэны:**

**Многое уж невозможно ныне:**
**Цари на небо больше не глядят,**
**И пастыри не слушают в пустыне,**
**Как ангелы про Бога говорят.**

**Advocatus Dei** Еўрапейская, і перш за ўсё славянская, культура літаратурацэнтрычная, бо якраз славеснасць, слова сфарміравалі яе аснову і сутнасць. Яна, літаратура, сталася асновай навукі, філасофіі, эканомікі.

**Advocatus Diaboli** Але ніхто не хоча чытаць пра філосафаў і эканамістаў, ад чаго галовы толькі пухнуць, лепш пачытаць пра подзвігі Казановы ці герояў іншых **«Приятных ночей».**

**Advocatus Dei** Літаратура можа плакаць, смяяцца, стагнаць, заклікаць, спяваць, гуляць, жартаваць, прасіць, трызніць, et cetera, карацей кажучы, усё, што захочаш, яна шукае дарогу да Храма.

**Advocatus Diaboli** Літаратура – гэта і кулінарыя, і правілы добрых паводзін, і прыватная перапіска, і справаздачы аб падарожжах, і Камасутра – таксама літаратура, бо ўсё напісана словамі.

**Advocatus Dei** Не блытайце Божы дар з яечняй. Не давайце святыню сабакам, бо вы скажаце, што і ананімка – літаратура.

**Advocatus Diaboli** Яшчэ якая. Якія там жарсці, памкненні, як напісана, а з якой радасцю яе чытаюць і перадаюць з вуснаў у вусны. Цяпер літаратура падобна стала дыназаўру, якога саблезубыя тыгры сучаснасці – кіно, тэлебачанне, масмедыя, кампутар – адганяюць ад сакавітай травы і крынічнай вады папулярнасці і аўтарытэту і нават элітарнасці ў духоўную рэзервацыю, дзе пануе пясок, вярблюжая калючка і ўсеагульная абыякавасць.

**Advocatus Dei** У старажытнай Грэцыі драматургу Сафоклу ставілі статуі пры жыцці, перапіску з філосафам і паэтам Вальтэрам мелі за гонар для сябе еўрапейскія імператары, хоку японца Басё выбівалі на камянях. Усе іншыя віды мастацтва – і скульптура, і архітэктура, і жывапіс, і нават музыка – прайграюць і саступаюць літаратуры. Яны нішто перад ёю, гэтыя вялікія нямыя.

**Advocatus Diaboli** Таго не чуюць, хто не хоча, каб яго чулі. Мы, як і раней, пішам вершы, у якіх спяваем пра ўсход і заход сонца, пра тужлівы сум і нечаканую радасць. Праўда, ніхто іх ужо і не чытае. Тым болей, ніхто не згадвае, што паэзія – найбольш дасканалая зброя чалавечага слова, якое можна і патрэбна выкарыстоўваць для вырашэння самых складаных праблемаў сучаснасці. Згадаем, як было раней:

**Голас з-за сцэны:**

**Бывало, мерный звук твоих горячих слов**
**Воспламенял бойца для битвы,**
**Он нужен был, как чаша для пиров,**
**Как фимиам в часы молитвы.**

Або ў роднай традыцыі:

**Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш,**
**Абрабіць яго трэба з цярпеннем.**
**Як ударыш ты ім, – ён, як звон, зазвініць,**
**Брызнуць іскры з халодных каменняў.**

**Advocatus Diaboli** А можа, трэба пазбавіцца празмернага пафасу? Зрабіць слова больш чалавечым? Сардэчным?

**Advocatus Dei** Зрабіць паэзію больш далікатнай, больш жаночай?

**Advocatus Diaboli** Сапраўды. Калі бывае бабіна лета, то чаму і не быць бабскай паэзіі. Аднак, як тое – не лета, то і гэтая – не паэзія. Гэта падобна да пытання пра марскую свінку і жанчыну-вучонага.

**Advocatus Dei** Прычым тут гэта? Якія свінкі?

**Advocatus Diaboli** Марская свінка не мае ніякіх адносін ні да свіней, ні да мора, а яе візаві, г. зн. вучоная жанчына – ні да вучоных, ні, тым болей, да жанчын.

**Бабця** *(вяртаецца)* Як і гэтыя разумнікі. Досыць. Хопіць. Выганіце іх і тушыце святло. (*святло тухне).*

**З'ява пятая**

*Святло загараецца. Бабця, Ён. Усе крыху збянтэжаныя, узрушаныя.*

**Бабця** *(задаволена пацірае рукі)* Ну і далі мы ім чаду *(голасна)* Пане, на вялікі жаль, справы значна пагоршыліся. Праблема набывае непрадказальны характар.

**Ён** *(устрывожаны)* Што яшчэ здарылася?

**Бабця** Ахове падалося, што і карціны пачалі ажываць, а з вялікага габелена ў гонар Венеры, што вісіць у галерэі, у камінной зале, пачалі злазіць херувімчыкі і д'яблікі.

**Ён** Тэрмінова закрыць буфет. Нікога не пускаць да вінных падвалаў.

**Бабця** Ды не ў гэтым справа.

**Ён** А ў чым? Чаму ніхто нічога не прадпрымае, чаму ніхто нічога не робіць?

**Бабця** Дарэмна пан так думае. Мы ўжо разам з кіраўніком аховы ўжо даўно дзейнічаем імкліва і энергічна.

**Ён** І якія вынікі?

**Бабця** Замак тройчы асвенцілі!

*(У клубе дыму і паўзмроку праходзяць бацюшка, ксёндз, рабін, якія шэпчуць пацеры і махаюць рукамі з кадзіламі і світкамі папераў).*

**Бабця** Міліцыя паставіла датчыкі аўтаномнай сігналізацыі, якія імгненна заўважаць любы рух *(ахова ставіць прыладу).* Відэакамеры ўжо зафіксавалі нейкія дзіўныя рухі, якія зараз расшыфроўваюцца. У каміннай зале пачынае дзейства спецыяліст па выгнанні нячыстай сілы.

*(У цемры запальваецца чароўны шар, вакол якога праводзіцца спірытычны сеанс. Да мясцовай знахаркі імкнецца шаман з бубнам. Чуецца голас: "Ізыдзі, нячыстая сіла!").*

**Ён** Ды вы зусім здурнелі. Ганіце ўсіх адсюль, пакуль я разам з імі зусім не звар'яцеў. *(У цемры шум, згрызоты, потым усё сціхае).*

## З’ява шостая

*Бабця, Ён, Яна, Цыганка.*

**Бабця** Ну, калі вам усё не даспадобы, то звернемся да апошняй надзеі. Існуе кардынальна іншы і значна больш радыкальны сродак лячэння. Проста зусім выкінуць кнігі – гэтага, на жаль, замала. Тым болей, што яны ўжо зрабілі сваю пачварную справу. Выкарыстаем апошні шанс.

**Ён** Дык гавары хутчэй. Не мучай. Казаў жа, грошай не пашкадую.

**Бабця** Добра! Лаўлю на слове. *(хітравата)* Я вось знайшла вам аракула, Севілью, Настрадамуса мясцовага разліву, які ўсё вам і раскажа. І пра вашу долю, і што было, і што будзе. *(выводзіць цыганку).*

**Цыганка** Ах ты мой красаўчык. Ай ты мой ненаглядны. І што за пячаць трывогі на тваім чале? Пазалаці ручку, я табе ўсю праўду раскажу.

**Ён** Не трэба мне твая праўда.  Я і так усё ведаю.

**Цыганка** Ой, брыльянтавы. Ой, сярэбраны. Не вырывай ручку, бо твая трывога назаўсёды з табою застанецца. Паслухай лепей мяне, старую цыганку, якая сабаку з’ела на такіх справах. Я ўсё раскажу: як сэрца пацешыць, чым душу супакоіць. Ой, бархатны ты мой, бачу, як страшэнная хвароба цябе грызе. І няма ад яе ратунку.

**Ён** І ты туды! Ды што гэта за дзень! Адкуль гэтае пудзіла ўзялося? Хто пусціў? Гэй, ахова!

**Цыганка** Толькі паслухай маё слоўца і пазалаці ручку, я ўсё наладжу.

**Ён** *(крыху мякчэе)* Ну, за гэтым справа не стане.

**Цыганка** Ну і цудоўненька. Дай ручку, бурштынавы ты мой.

*(Той нехаця падае)*

Доўга ты будзеш жыць. Да самай смерці. І ўсё ў цябе будзе: і дом, і пасада высокая, і грошы вялікія.

**Ён** Ды гэта ўсё ў мяне ўжо ёсць. Знайшла сякеру пад лаўкай.

**Цыганка** Але ж ненадоўга. Як прыйшло, так і сыдзе. А я вось табе па дабраце сардэчнай падкажу той сродак, якім ты не толькі вылечышся ад пошасці, але і сілаў набярэшся нямераных.

**Ён** Ну дык гавары. Як я магу вылячыцца?

**Цыганка** Жаніцца табе трэба. І ўсе кашмары і самыя разнастайныя беды знікнуць, растануць, як туман над нашым родным балотам. І да бабкі не хадзі.

**Ён** *(глядзіць на яе запытальна)* А так… проста… На павер?.. **По соглашению сторон**… без адрыву ад вытворчасці… Ну, не жаніцца?.. Каб і дома, і замужам… Хіба нельга? Жанчын жа хапае. Вунь, колькі іх, прыгожых, маладых, згодных на ўсё…

**Цыганка** *(сурова)* Нельга! Толькі жаніцца! Бо людзі паміраюць не ад недахопу сэксу, а ад недахопу кахання. А паддаюцца лекаванню толькі тыя, хто навязаны на ланцуг.

**Ён** Праўда? Хто ж яго ведае? Я ўвесь час чую, як з трэцяй шафы нейкі Самсон Самасуй , герой рамана А. Мрыя, пастаянна паўтарае – жаніся, каб было куды дурасць і энергію пхаць.

**Яна** *(сарамліва адводзячы вочы, але, як і раней, хітравата).* А з паліцы з фальклорам даносіцца – жаніся, каб дурні не перавяліся.

**Ён** *(разважліва)* А можа і праўда?!… Лепш рашуча памыляцца, чым нерашуча мець рацыю. Займець жоначку… *(сентыментальна)* Каб я жоначку меў! Ды і дзетак так хочацца пагушкаць, расчасаць ім ільняныя кудзеркі.

**Цыганка** У такім узросце ўжо ўнукам радуюцца. За ручаньку на дыскатэчку ці ў рэстаранчык іх ведучы, цешацца.

**Бабця** *(да Яе)* Глядзі, як ён мяняецца. Амаль на вачах.

**Яна** Сапраўды. Што за метамарфозы?

**Ён.** Ох, відаць, і мне не пазбегнуць непераможнага закону зямной юдолі. Жаніцца… Не жаніцца? Хоць бы рамонак прынеслі. Пагадаць.

**Цыганка** Перад тым, як гадаць, трэба пялёсткі палічыць.

*Яму нясуць велізарны папяровы рамонак.*

**Ён** Ды не трэба, гэта ж метафара! *(Адпіхвае )* Ой, не ведаю. І хочацца і колецца. Гэта ж клопаты, турботы. Рызыка вялікая. Жанчына – гэта адначасова і яблык, і змяя.

**Цыганка** Не ўпадзеш з печы, каб не ляснуцца. Праблемы з'явяцца. Але і плюсаў многа.

**Ён** Ну, напрыклад. Назавіце галоўныя.

**Цыганка** Будзе каму на старасці гадоў стакан вады падаць. Бо халасцяк памірае, як сабака, пад плотам.

**Ён** Затое жыве, як кароль.

**Цыганка** А жанаты памірае, як кароль.

**Ён** Затое жыве, як сабака. Якія яшчэ перавагі ў жанатага?

**Цыганка** У цябе ўжо не будзе сяброў, што могуць заявіцца проста і бесцырымонна ў любы час дня і ночы. Ты не зможаш нікуды ні пайсці, ні паехаць: ні на футбол, ні ў бар, ні ў Егіпет. Будзеш сядзець, брыльянтавы ты мой, ля адзінай і ёю любавацца, чакаць загадаў і радавацца, калі на цябе звернуць увагу.

**Ён** Але цяпер такое падзенне нораваў, навокал распуста адна. Колькі я ўсяго наглядзеўся за час свайго кавалерства. Ніводнай прыстойнай цёлкі.

**Бабця** Жанчыны аднолькавыя ва ўсе часы. І калі апавядаюць пра свае подзвігі, не верце, гэта яны проста хваляцца.

**Ён** Гэта такая страшэнная сіла – жанчына. Адзінарог і той губляе волю пры выглядзе голых жаночых грудзей.

**Цыганка** Знайшоў мне зброю. Ды такіх армій… Не злічыць.

**Ён** Э-э-э, не скажы. Вунь у класіка было:

Чыталі ж "роман", як на востраў
Эстэт эстэтку перавёз.
Яна ж "цыцкой, як куля, вострай"
Прабіла там яго наскрозь.

**Цыганка** Не бойся. Цяпер такіх няма, засталіся толькі легенды. Хочаш жыць – жаніся. Інакш – хана. Гані грошы і не сумнявайся. *(усе аслупянелі) (сыходзіць).*

**Ён** Жанчына падмане самога д'ябла. Памятаеце, у "Тысяча і адной ночы" адну дзяўчыну з-за вясельнага стала скраў злосны джын, зачыніў яе ў сундуку, сундук у ларэц, а той замкнуў на сем замкоў і кінуў у марскія хвалі. І ў такіх варунках яна займела пяцьсот сорак сем каханкаў, з якімі тварыла распусту на рагах у джына.

**З'ява сёмая**

*Некалькі зграбных дзяўчат у адпаведных строях дэманструюць гарэмны танец жывата. Усе любуюцца, Ён пазірае са страхам і цікавасцю, якая, нарэшце, перамагае.*

**З'ява восьмая**

*Ён, Яна, Бабця, Голас з-за сцэны.*

**Ён** Сапраўды. Жанчына – страшэнная сіла. Асабліва такая. Яна магутная нават у гарэме, за кратамі. Султаны і шэйхі станавіліся рабамі яе ўлоння. А што будзе, калі даць ёй волю?!

**Бабця** Нічога не будзе. Яна дзейнічае так толькі ў выключна неспрыяльных умовах. Таму не бойцеся, знойдзем вам сумленную і чэсную дзяўчыну.

**Ён (амаль слязліва) Все девушки хороши – откуда плохие жены берутся?**

**Бабця** Бо ўсе імкнуцца жаніцца толькі на красунях, забываючы, што прыгожая жанчына **– гэта** **переходящее красное знамя** або кубак **,** якi хутка адбіраюць канкурэнты.

**Ён** А я чуў, што ланцугі Гіменэя такія цяжкія, што іх можна несці толькі ўтраіх, а можа нават і ўчатырох.

**Бабця** Гэта бывае ў такіх вырадкаў, калі муж не можа сам цягаць шлюбныя кайданкі, а толькі імі грыміць, наводзячы жах на блізкіх.

**Яна** У абдымках сапраўднай жанчыны заўсёды ёсць месца толькі для аднаго мужчыны.

**Бабця** Карацей кажучы, я зразумела: ёсць купец, а тавар – **noproblems**. Але трэба пашукаць.

**Ён** Ія зразумеў, што жонка – гэта частка гаспадаркі, раз гаворка зайшла пра тавар. Сумна быць ахвярным казлом сярод аслоў.Нядаўна чуў цікавую гісторыю**.** Калі ў аднаго гаспадара памерла жонка, а затым хутка здохла і карова, то ўсе суседзі сталі яго суцяшаць і прапаноўваць не адну кандыдатуру ў спадарожніцы жыцця на выбар. Той слухаў і адказаў: “Вельмі ўдзячны за вашы парады. Але бачу: лепей страціць жонку, чым карову. Бо на месцы нябожчыцы падсоўваеце мне капу дзяўчат, а вось каб хоць адзін прапанаваў жывёліну”.

**Бабця** Дык вы і так багаты. Навошта вам карова? У вас на падворках ласі са страўсамі ды фазанамі бегаюць.

*Гучыць песня на словы Н. Тулупавай “Як павезлі мяне сватаць”*

Як павезлі мяне сватаць,
Ды без мамы, ды без таты,
А я хлопец не стары,
Мне ўсяго шчэ сорак тры –
Ранавата!
Сват памчаў на «Масквічы»,
Мой сябрук на цягачы,
Свацця на кабыле,
А мяне забылі.
А я ўслед за імі з хаты,
Ды без мамы, ды без таты,
Цераз рэчку, праз сяло,
Дый дагнаў, хоць і было
Цяжкавата!

Сват крычыць: «Жаніх не той!»
Сваццfamiliarity – лясь яго пятой!
Мылі мяне, мылі,
Ды ўзялі – пабілі.

Як пачалі сватаць дзеўку,
Ды без мамы, ды без таты,
А ў той дзеўкі нос рабы,
Аж кабыла – на дыбы!
Страшнавата!
Сват уцёк на "Масквічы",
Мой сябрук на цягачы,
Сваццся на кабыле,
А мяне – жанілі.

**Ён***(праслухаўшы, рэзка махае рукою)* Усё! **Finitalacomedia**! Перадумаў! Не буду жаніцца! Адназначна. Канчаткова. Ранавата. Я яшчэ не нацешыўся свабодай.

**Бабця** У сорак гадоў?!А хвароба? Яна ж чакаць не будзе. Як кажа Ставер, танту-банту, глядзі - і спёкся папуас. Усе ўрачы сцярджаюць, што рэцыдыў намнога страшнейшы за пачатак любой хваробы.

*У яе звініць далькажык, яна скідвае званок.*

**Ён***(пакрыўджана, нібы дзіцёнак)* Тут мая доля рашаецца: жыць мне ці не наогул, а ты са сваімі мабіламі.

**Яна** Але ж я не вінаватая, што мяне *(з выклікам)* так любяць.

**Ён***(ізноў уважліва яе аглядае, ацэньвае)* А я і не заўважаў, нават не здагадваўся, што ты таксама зграбная і прыгожая. Але я лічу, не, я ўпэўнены, што жаніцца не варта, бо цяжка знайсці роўную для мяне. За мяне кожная пойдзе, бо жанчына ведае сэнс любові, а мужчына яе вартасць і цану.

**Яна** Адзінае, што падабаецца людзям у багатых – іх грошы.

**Бабця** Згодна, пойдзе. Але не столькі за вас, не будзем ілгаць самі сабе, колькі за вашы грошы, за Мальдзівы ў перспектыве, хоць і з кракадзілам, але Мальдзівы, за нерухомасць, за страусаў і за будучую бліскучую тысячу і адну ноч. Будзе плакаць у падушку ў залатой клетцы, але *(уздыхае)* пойдзе.

**Ён** На Мальдзівах сапраўды жывуць кракадзілы. Я бачыў. Аднаго нават злавіў, цяпер у маім тэррарыуме жыве. Хочаце, раскажу як. Якое гэта было складанае і небяспечнае сафары…

**Бабця***(смеючыся)* Мы ведаем добра. Распявадайце свае байкі **корешам**.

**Яна** Яны, гэта значыць кракадзілы,жывуць іна Беларусі. Але я хачу сказаць, шторазумныя прыгожыя жанчыны ніколі не выходзяць замуж па разліку, а толькі па загаду сэрца, па каханню. Адна мая знаёмая заявіла, што выйдзе замуж за алігарха пры ўмове, што той да шлюбу дасць ёй мільён еўра і паабяцае праз год пакінуць яе ўдавой.

**Бабця** І тое праўда. Як сказала Марлен Дзітрых, а яна ў гэтым ох як разумела, жанчына любіць вушамі, а вушы любяць брыльянты. **Лучшие подруги женщины – это бриллианты**. Але калі дзяўчына сапраўды разумная і прыгожая, то ёй хопіць і тыдня, а ў экстраным выпадку некалькі дзён ці нават гадзін, каб закахацца ў мільянера, у якога да яе сур'ёзныя намеры.

**Ён** Ты болей, калі ён малады *(паказвае на сябе,* ***Яна*** *з* ***Бабцяй*** *усміхаюцца)*, статны і гожы *(уцягвае жывот, яны заціскаюць рот)*, абаяльны *(яны рагочуць, ён задуменна сціхае)*. Я ж зусім малады.

**Голас з-за сцэны** Сорак – гэта старасць маладосці; пяцьдзесят – юнацтва старасці. А Піфагор наогул падзяліў жыццё чалавека так: дваццаць гадоў – хлопчык, дваццаць – падлетак, дваццаць – юнак, дваццаць – старац.

**Ён** *(крыху разгублены)*Ну і што мне рабіць? Там смерць, тут пакуты. Якім чынам выйсці з гэтай сітуацыі?

**Яна** Трэба трымацца прынцыпу свабоды волі. Самыя галоўныя этапы жыцця – нараджэнне і смерць – чалавек не выбірае, тут ён цалкам залежыць ад вышэйшай сілы. А вось жаніцца – тут ужо вольнаму воля, і ён можа праявіць сябе, даказаць, што не слімак, а разумная істота, якая кантралюе сябе, бо жыве ідэаламі, а не інстынктамі.

**Бабця** Рашэнне аб жаніцьбе – апошняе, якое прымае мужчына самастойна, хоць ён аб гэтым і не падазрае, бо гэта вялікая жаночая тайна.

**Ён** А можа і праўда ажаніцца ?! Вольнаму воля, хоць нешта сваё самі ў сваім жыцці абяром. Толькі ж на кім? Ой, так добра было да гэтага.

**Яна** Аднак і ў гэтай справе павінен прысутнічаць глыбокі навуковы падыход, трэба ўсё паставіць на сур'ёзную навуковую аснову.

**Ён** Ізноў?! Дай спокуй. Колькі разоў табе гаварыць, што ад гэтай навукі ўсе мітрэнгі на свеце. Усе мае аднакласнікі–выдатнікі альбо спіліся, або вуліцы падмятаюць.

**Яна** Але і без яе вялікасці навукі нікуды.

**Ён** Навука *(з'едліва)*. **Нет более жалкого общества, как общество ученых, за исключением тех немногих, которые имеют в голове и в теле военные замашки.**

**Яна** І Ніцшэ зваліўся на на бедную галаву.

**Ён** Нацпершая, самая шкода ад фізікаў і для чалавецтва. Я б усіх гэтых вучоных, а найперш вайсманістаў-марганістаў, адправіў бы ў Сібір, няхай там сеюць кукурузу.

**Бабця** Фі, цяпер гэта не актуальна.

**Ён** Тады ківі і кіш-міш. А фізікаў-ядзершчыкаў – на Марс, хай там зацвітуць сады.

**Яна** А можа хоць на Месяц?

**Ён** Усё роўна, абы адсюль, абы з Зямлі. У свой час разумныя імператары тапілі тых, хто прыдумваў кола; каралі адсякалі галовы аматарам палётаць на апаратах, цяжэйшых за паветра, ці скідалі іх са званіц. Няхай і гэтыя лятаюць. І хай захопяць з сабою ўсе гэтыя смартфоны і айподы.

**Яна***(звініць далькажык у яе)*. Я не магу, дарагі, гаварыць. Я ператэлефаную, калі буду мець вольную хвіліну.

**Ён** Хто гэта? *(ужо раўніва пытае)*

**Яна** Прашу прабачэння. Гэта прыватны званок. – *(голасна)* У справах сэрца заўсёды можна спадзявацца толькі на душу.

**Ён** А чаму табе так часта звоняць?

**Яна** Бо я прыгожая, маладая, незамужняя. (*ціха):* А некаторыя не бачаць. *(голасна)* Навука здольная спазнаць усё: і сэрца, і душу, і каханне.

**Ён** Што? Што?

**Яна** Вось Арыстоцель, той, што вучыў Александра Македонскага, яшчэ ого-го калі падзяліў каханне на шматлікія віды і падвіды, разнавіднасці.

**Ён** Ну-ну, цікава... Пакажы, што там можа быць новага. Ого колькі там відаў любові і кахання. **Огласите весь список.**

**Яна** Як прыгожа гучыць старагрэцкая мова – **Антропосъ**! Але вернемся да нашых баранаў, прабачце, гэта я цытую класіка.

**Ён** (паблажліва) Я чуў пра Франсуа Рабле. Давайце да класіфікацыі. Нешта Арыстоцель мяне не зачапіў.

**Яна** *(ціха)* Слава Богу, на той час ён быў у пераплёце.

*Голас з-за сцэны*:

*eros* – жарсць, каханне, што ўзнікае адразу і нясе чалавеку радасць і пакуты;

*філіа* – каханне-сяброўства;

*агапэ* – каханне-адданасць;

*mania* – апантанасць;

*caritas* – жаль і міласэрнасць (славянскі тып);

*pragma* (па разліку), *lubus* (гульня), *pietas* (абагаўленне). Якое вам даспадобы?

**Ён** Мне б такое просценькае, дзе ціскаюцца, цалуюцца і ... *(жэстыкулюе)*

**Бабця** Фі, як некультурна.

**Яна** Іншага я і не чакала... ад парвеню.

**Ён** Затое праўда. Мне рамантыкі зусім не трэба. Як там у класіка?

*Голас з-за сцэны*:

**Хочу быть сильным!**
**Хочу быть смелым!**
**Из спелых гроздей венки свивать.**
**Хочу упиться твоим телом.**
**Хочу одежды с тебя сорвать.**

**Яна** З усёй анталогіі любоўнай лірыкі **«Ты моей жизни утеха»** вам запомнілася толькі гэта?

**Ён** Бо гэта праўда. Як казалі саражытныя грэкі, а тваёй душэўнай прыгажосцю, о Лукрэцыя, няхай ўпіваюцца і захапляюцца сапраўдныя або ўяўныя імпатэнты.

**Яна** Згода. Але каханне заўсёды акрыляе.

**Бабця** Адных робіць птушкамі, іншых – кажанамі, гэта значыць лятучымі мышамі.

**Яна** Але ўсё роўна, як бы вам гэтага не хацелася, мы справу пераводзім на навуковую аснову.

**Бабця** Платон... Арыстоцель... Класіфікацыя... Ды мы ў гімназіі сваю класіфікацыю ладзілі, не горшую, чым у філосафаў. Дай Бог памяці...

**Голас з-за сцэны**

Як хто кахае і любіць? :

Кухарка – горача.
Цукернік – салодка.
Урадовец – афіцыйна.
Гімназісты – класічна.
Доктар – смяротна.
Бамбардзір – агніста.

Каапэратар – супольна.
Журналісты – сенсацыйна.
Тэолаг – набожна.
Паэт – фантастычна.
Дурань – верна.

**Бабця** Намногапаэтычней і дакладней. Але вы тут спрачайцеся сабе, гаварыце розныя разумныя словы, а я збегаю пакуль што па класічную сваху, бо, здаецца мне, нешта ладзіцца *(ціхенька выходзіць і за сцэнай гаворыць па тэлефоне):* Тэрмінова прыязджай, кліент падрыхтаваны. Мне здаецца, можа нешта выгарэць. Захапі сама ведаеш каго. А пакуль сваха дабярэцца, мы іх яшчэ крыху папалохаем.

**З'ява дзевятая**

*Ён, Яна, Адвакаты з памочнікамі ў выглядзе анёлкаў і д'яблікаў.*

*Тухне святло тухне і запальваецца.*

**Голас з-за сцэны:**Праблема кахання ва ўсе часы была вызначальнай, анталагічнай, бо ніводныя жарсці па сіле і магутнасці ўздзеяння на чалавека не могуць параўнацца з тымі, што перажываюцца і здзяйсняюцца ў спальні. У старажытнай Грэцыі **sex** і насілле лічыліся дзвюма іпастасямі аднаго велічнага і неадольнага пачуцця, сімвалам якога становіцца не Купідон, не анёлак з крыльцамі і цацачным лукам, а Эрас з атручанымі стрэламі, ад якіх распадаецца цела. Жарсць, **вожделение** й прага крыві абазначаліся адным словам, бо яны былі роўнавялікімі і роўназначнымі. *(падчас маналогу з'яўляюцца амурчыкі і д'яблікі)*

**Ён***(спалохана)* Ізноў гэтыя галасы, ізноў гэтыя здані.

*У цемры асвятляецца абліччa **AdvocatusDiaboli**, які стаіць за кафедрай, злева яго памочнікі. Пачынаецца дыскусія:*

**AdvocatusDiaboli** І Напалеон, і Байран, як і ўсе вялікія, заўсёды адчувалі вялікую пагарду да жанчын, і гэтая думка з'явілася не раптоўна, а з вялікага гістарычнага вопыту паэзіі і ваеннага мастацтва. Праўда, мастакі заўсёды ўздымалі жанчыну на п'едэстал.

**Д'яблік** Каб потым даць добрага выспятка, ад якога яна паляціць на зямлю.

**AdvocatusDiaboli** Уяўленне паэта заўсёды імкнецца надзяліць яе рысамі прыўкраснага ідэала, але гэта тлумачыцца тым, што

творчыя асобы адлюстроўваюць іх не такімі, якімі яны з'яўляюцца ў сапраўднасці, але якімі павінны быць. Яны займаюць у нас ненатуральнае становішча. Туркі і ўсходнія народы дзейнічаюць у гэтым плане куды мудрэй за нас. Яны трымаюць жанчын пад замком, і тыя адчуваюць сябе куды болей шчаслівымі. Дайце жанчыне люстэрка і некалькі цукеркаў, яна будзе цалкам задаволеная і радасная.

**AdvocatusDei** А мужчыны наогул не патрэбны нікому. Зусім. За выключэннем тых выпадкаў, калі неабходна перацягнуць піяніна ці выгуляць на вуліцы сабаку. Нават штаны жанчыны носяць лепш за мужчын.

**AdvocatusDiaboli** Кожны сапраўдны мужчына адчувае сябе богам у параўнанні з жанчынай. Невыпадкова ў старажытных яўрэяў была падзячная малітва Егове за тое, што стварыў яго не жанчынай.

**AdvocatusDei** Жанчына – гэта цвік, на які жартаўнік вывешвае свое хохмы, святар – свае павучанні, цынік – свае згрызоты, грэшнік – свае пакаянні.

**AdvocatusDiaboli** Да гэтага часу ўсе сумняваюцца, ці ёсць наогул душа ў жанчыны? Бадлер здзіўляўся, што жанчыне наогул дазваляецца хадзіць у царкву. Пра што яна можа гаварыць з Богам? Згадаем, што яшчэ вялікі Эразм з Ратэрдама гаварыў пра кабету *(танцы-пантаміма амурчыкаў і д'яблікаў, якія чытаюць тэкст і скачуць, а потым чытаюць на латыні (таму тут далей па-руску):*

**Д'яблік** Следом за Платоном он сомневается, к какому разряду живых существ, разумных или неразумных, подобает отнести женщину. Ее предназначение, этой скотинки непонятливой и глупой, но зато забавной и милой, дабы она своей бестолковостью приправила и подсластила тоскливую важность мужского ума. Не случайно и слово глупость и сама женщина – одного рода.

**AdvocatusDiaboli**И чем больше красивости, тем больше глупости.

**Херувімчык** Благодаря глупости женщина счастливее мужчины, ибо с помощью своей красоты самых гордых тиранов подчиняет своей тирании. А пороки мудрости – отталкивающий и дикий внешний вид мужчины, их волосатая кожа, дремучая борода, весь этот облик преждевременной старости, которые они таскают на себе без малого всю свою жизнь. А пухлые щеки, тонкий голос и нежная кожа женщин вечно подражает юности.

**Д'яблік**В глупости женщины – высшее блаженство мужчины. Какую только чушь привыкли нести мужчины в любовных беседах и какими только глупостями они не занимаются, лишь бы сделать

женщину более податливой. Теперь вы видите, из какого источника проистекает любовь, первое и главное наслаждение в жизни.

**AdvocatusDei** Ты яшчэ паўтары старажытны тэзіс, што мужчына створаны для вайны, а жанчына – для ўцехі воіна. Глупства. Калі б Бог хацеў бы прызначыць жанчыну паняй для мужчыны, то стварыў бы яе з галавы; калі б служкай – то з нагі; але паколькі ён прызначыў ёй быць сяброўкай і роўнавялікай мужчыне, то і стварыў яе адпаведна з рабра.

**AdvocatusDiaboli** Шчасце мужчыны – я хачу.

**AdvocatusDei** Шчасце жанчыны – ён хоча.

**AdvocatusDiaboli** Толькі ў такім выпадку сусвет стане дасканалым. Мужчына і жанчына – гэта дзве скрынкі, у якіх ляжаць ключы аднаго да іншага.

**AdvocatusDei** Тады, значыць, месца ключа ў замку, а месца мужчыны – у жанчыне.

**Галасы з-за сцэны** У гэтым вялікая жыццёвая мудрасць. Але запомні, сыне мой, ідучы да жанчыны, не забудзь пра бізун.

*Гучыць арыя "Пою тебе, бог Гименей", пад якую сцэна цямнее.*

**З'ява дзесятая**

*Ён, Яна, Бабця, Сваха, Адвакаты.*

**Сваха***(уключае святло)* Якія ж толькі глупствы могуць гаварыць людзі ў мантыях і шапачках, тым болей з трыбуны ці кафедры, бо тады Дурасць становіцца непераможнай. Кыш адсюль, убогія *(махае на адвакатаў, якія спалохана адступаюць)*. Я – сваха, як вы зразумелі, самая галоўная асоба на свяце жыцця. *(звяртаецца да жанчын)* Цалавацца не будзем. Дарэчы, чаму жанчыны цалуюцца пры сустрэчы?

*Усе разам, паціскаючы плячыма:* Не ведаем.

**Сваха** Бо не могуць укусіць адна адну. (*Звяртаецца да героя*) Ну і як? Не слухай нікога. Жаніцца трэба. Абавязкова.

**Д'яблік і Херувімчык разам** Трэба-трэба!

**Сваха** Так даўным-даўно павялося, так і ў мудрых кнігах запісана, так і ў законах пазначана. А хто не хоча ці не можа, таму паспрыяем, дапаможам. І найперш я, сваха. Гаворыцца ж: гдзе чорт не зможа, там бабу пашле. Я падару табе шыкоўнае каляровае выданне "Камасутры" і пачак "Віягры" *(Д'яблік паказвае)*. Ды і я багата не вазьму, хаця ганарар патрэбны, бо ў любові бясплатныя толькі месяц і чарот, ды яшчэ лаўкі ў парку.

**Яна** Але ж жаніцца трэба па каханні.

**Сваха** Любоў. Каханне. Усё будзе. Маё першае каханне – мой чацвёрты муж. Каханне можна ўсё жыццё чакаць, а пакуль, каб не сумаваць, трэба жаніцца і выходзіць замуж.

**Ён** Але кожны мужчына можа ашчасліціць хоць адну жанчыну, застаючыся халасцяком.

**Сваха** Затое кожная талковая жанчына зможа нават з малпы… *(тыцкае)*

**Ён** Ну-ну, я папрашу.

**Сваха** Зрабіць чалавека. Колькі табе гадоў?

**Ён** (*муляецца*) Ну-ну.

**Сваха** Зразумела. Самы цяжкі і небяспечны падлеткавы ўзрост паміж 30 і 40 гадамі. Тым болей патрэбна жаніцца, каб пазбавіцца ўсіх комплексаў. Так, я табе знайду дзеўку. Гані грошы. Будзеш шчаслівы.

**Д'яблік і Херувімчык разам**Будзеш, будзеш.

**Ён** А не падманеш?

**Сваха** Наша фірма, "Гіменей несмяротны", гарантуе. Толькі грошы наперад, і самая лепшая дзеўка твая. Якую хочаш: і прыгожую, і багатую, і разумную: табе якую Васілісу: прыгожую ці разумную?

**Херувімчык** Пакладзістую.

**Сваха** Бялявую ці чарнявую?

**Д'яблік** Рыжую. Або лысую.

**AdvocatusDei** І мы ж пра тое. Нават Сакрат казаў: жаніся. Трапіцца добрая жонка – будзеш выключэннем; калі паганая – станеш філосафам.

**AdvocatusDiaboli** Узяўшы Ксантыпу, ён і стаў вялікім. І нават сярод такіх звадак і сварак ён яшчэ мог думаць. Але пісаць ён не мог: пасля Сакрата не засталося ніводнай кнігі.

**Сваха** Слава Богу! А можа ён проста не ўмеў пісаць, а жонка так і не навучыла.

**Ён**Тады я яшчэ болей паверыў у ягоную геніяльнасць. А цяпер я не паўтару ягоных памылак. Не буду жаніцца ні на воднай з іх, на гэтай, як сказаў Эразм, <u>скотинке</u> недалёкай і неразумнай.

**Сваха***(рашуча)* Гэта што?! Бунт на караблі?! А кантракт?

**Ён** Які кантракт?

**Сваха** Наш з табою. Што нядаўна заключылі. Няўстойка з цябе. Па судах зацягаю.

**Ён** Я лепш заплачу, а то Чэхаў сказаў: **Когда я женился, я стал бабой.Д'яблік** І ён жа дадаў: **Если боитесь одиночества, то не женитесь.**

**Херувімчык** Ён жа і ўсклікнуў: **Если жена тебе изменила, то радуйся, что она изменила тебе, а не отечеству.**

**Бабця** Хопіць вам паказваць сваю эрудыцыю. А хвароба?! Забыўся?! *(пагрозліва)*

**Сваха** А ты ведаеш, што тады будзе, што з табою здарыцца? Рэцыдыў.

**Ён** Падымі руку ўгору, рэзка апусці яе і голасна скажы: канец! *(Махнуў рукой)* Ну, нічога не зробіш, працягвайце здзекі з **homosapiens**.

**Сваха***(лагодна)* Ну вось, кось-кось, пакуль у аглоблі. Усё добранька, цудоўненька.

**Д'яблік** Медыцына вучыць, што халасцякі паміраюць вар'ятамі, а жанатыя паміраюць, не паспеўшы звар'яцець.

**Херувімчык** Ніколі не вер жанчыне, асабліва калі яна гаворыць праўду.

**Сваха** А цяпер падумай, які варыянт пошукаў ты выбіраеш?

**Херувімчык** Старадаўні, класічны, або сучасны, мадэрновы?

**Д'яблік** Ці кангламерат, творчае суладдзе? Грошы адны і тыя ж. дарэчы, чэкам ці гатоўкай?

**Ён** Раскрыйце сутнасць абодвух. Вы жа ведаеце, што апошняе жаданне асуджанага на смерць выконваецца заўсёды.

**Сваха** Трэба было адразу згаджацца. Доля вядзе таго, хто пакорны ёй. Таго, хто ўпіраецца, яна цягне.

Слухай класічны варыянт. Я памятаю яшчэ з дзявоцкіх часоў. Вечарам у хату да маладога хлопца заходзіць сват. Ну, вядома, не роўня мне, аднак чалавек гаваркі, вясёлы, схільны да імправізацыі. Адразу заяўляе, што пара таму, г.зн. хлопцу мяняць лад жыцця і выбіраць: або жаніцца, або ісці да ваўкоў (некалі старых коней з-за іх непатрэбнасці вялі ў лес і пакідалі шэрым санітарам). Хлопец, вядома, згаджаецца, хаця яго ніхто асабліва і не слухае. Сват выпівае з бацькам (хлопцу не даюць), нешта шэпчуцца, потым, перахрысціўшыся, выходзяць з ахвярай. Хлопцу ж карціць даведацца, да каго яны ідуць, але сват высакародна хавае таямніцу:

- **Херувімчык** Хіба ж табе не ўсё роўна?
- Як, – успыхвае маладзён. – Гэта ж выбар на ўсё жыццё!
- **Д'ЯБЛІК** І колькі ж ты збіраешся жыць?! – філасофскі сцвярджае сват.

Ачмураны такой жалезнай логікай, хлопец змаўкае і толькі па інерцыі сочыць, куды паварочвае сват, імкліва згадваючы, якія дзяўчаты жывуць у гэтым баку вёскі. А там ужо, у цьмянай,

падслепаватай хатцы, выбірае ён з тых, каго яму падсунуць. *(падчас маналогу падаюцца сцэны сватання):*

*Гучыць песня "Зялёная вішня".*

Зялёная вішня з-пад кораня выйшла,
Не аддай мяне, маці, дзе я не прывычна
Як выйду на гору і крыкну дадому:
«Вары, маці, вячэру і на маю долю!»

Варыла, варыла, ні мала ні трошкі,
Няма табе, дачушка, ні міскі, ні лыжкі:
Успамяні мяне, мама, хоць раз у аўторак
А я ж цябе, мама, на дні разоў сорак.

Успамяні мяне, мама, хоць раз у сярэду,
А я ж цябе, мама, ідучы да суседа.
Успамяні мяне, мама, хоць раз у субботу
А я ж цябе, мама, ідучы на работу.

Успамяні ж мяне, мама, хоць раз у нядзелю
А я ж цябе, мама, сцелючы пасцелю.

*Падчас яе гучання паказваюцца сцэны варожбы, дзяўчаты кідаюць вянкі, дэманструюцца фрагменты з абраду сватання.*

**AdvocatusDiaboli** Тут ёсць пэўная логіка.**Браки заключаются на небесах**, таму і ў цемры можна знайсці сваю палавіну.

**AdvocatusDei** Аддае адзін купец сваю дачку і кажа будучаму зяцю: "Пасаг за маладою – цэлы мільён, але ў яе ёсць адна загана: маленькі горб. Будзеш браць?" Той падумаў і кажа: "А з двума гарбамі дачкі ў цябе няма?"

**Ён** Мільён ў мяне самога ёсць. Не хачу традыцый, давай сучаснае прачытанне, бо хто яго ведае, каго намацаеш у цемры.

**AdvocatusDiaboli** У цемры ўсе коткі аднолькавыя. І пакаёўку добра цалаваць, калі поруч няма багіні, навек табе дадзенай.

**AdvocatusDei** М. Абсалютна згодны з вамі, калега. Нават секс-сімвал усіх часоў і народаў, Мэрылін Манро, жалілася, што яна не апраўдвала надзеі і спадзяванні ўсіх сваіх шматлікіх каханкаў. Усе чакалі, што падчас любошчаў зазвіняць званочкі і заспяваюць салаўі, але яна была проста жанчынай, як і ўсе. Анатоміі не зменіш.

**Ён** Усё роўна не хачу, каб мяне вялі, нібы бычка на вяровачцы, а потым подсоўвалі цялушку.

*Гучыць песня Л. Вольскага“Мама дарагая”:*

*Мне абрыдла весяліцца,*
*Мне абрыдла піць-курыць*
*Ды таму рашыў жаніцца,*
*Бо хачу сям’ю стварыць.*

*Мама дарагая,*
*Справа маладая!*
*Ды ніхто не можа ведаць,*
*Што яго чакае*

*Вось дзяўчына з Талачына,*
*Праліць, мые, як машына,*
*І гатуе смачны торт,*
*Праўда з твару чысты чорт!*

*Мама дарагая,*
*Справа маладая!*
*Толькі мне не даспадобы,*
*Дзеўчына такая!*

*Вось дзяўчына з Рагачова,*
*Прыгажосці цераз край,*
*Толькі скажа пару словаў,*
*Хоць ты вушы заціскай!*

*Мама дарагая,*
*Справа маладая!*
*Толькі мне не даспадобы,*
*Дзеўчына такая!*

*Прыгажуня з Магілеву,*
*Вусны, як чырвоны мак,*
*Толькі ўсё глядзіць налева,*
*Ну а гэта кепскі знак!*

*Мама дарагая,*
*Справа маладая!*
*Толькі мне не даспадобы,*

*Дзеўчына такая!*

*Стэфаніды, Яны, Раі,*
*Тут нявестаў цэлы лес.*
*Выбіраю, выбіраю,*
*Мне цікавы сам працэс.*

*Мама дарагая,*
*Справа маладая!*
*Усе хлопцы жонак маюць,*
*А я выбіраю!*

*Мама дарагая,*
*Справа маладая!*
*Усе хлопцы жонак маюць,*
*А я пачакаю!*

**AdvocatusDiaboli**Жаніцца трэба на жанчыне, якой нельга давярацъ у шлюбе.

**Ён** Не хачу ні сімвала, ні бомбы. Я стаміўся ад усяго. Хачу жанчыну любімую і каханую. Давай мадэрновы варыянт.

**Сваха** Пазнаю не хлопчыка, але дзецюка. А то я не люблю, калі на маю брахню адказваюць брахнёй. Гэта несумленная канкурэнцыя. Калі ласка *(пачынае барматацьі)***Windows, айпад, дзвінтас традзіс, holerajasna**. Прашу загрузіць праграму па пошуках ахвяры, цьфу, абранніцы. *(у цемры з'яўляюцца сілуэты ідэальных кабет у самых экзатычных строях і без іх, і ў самых экстрэмальных уяўленнях).* Неабходна загрузіць зыходныя параметры.

**Ён** Якія параметры?

**Сваха** Ну што ты як тое цялё? Колер вачэй, узрост, адукацыя, аб'ёмы!

**Ён**: Якія аб'ёмы, якія параметры?

**Сваха** Зусім здурнеў ад прадчування шчасця.

**Д'яблік***(голасна)* Ну, класічныя: 90-60-90.

**Ён** 90-80-110 і плюс 100.

**Сваха** А чацвёрты параметр адкуль узяўся?

**AdvocatusDiaboli** Гэта вага. Сапраўдная жанчына не можа важыць меней цэнтнера.

*Гучыць песня "Касіў Ясь канюшыну"*

Касіў Ясь канюшыну

Паглядаў на дзяўчыну.
А дзяўчына жыта жала
Ды на Яся паглядала.
Ці ты Ясь, ці ты не,
Спадабаўся ты мне.
Кінуў Яська касіць,
Пачаў мамку прасіць.
Люба мамка мая,
Ажані ж ты мяне.
Дык бяры Станіславу,
Каб сядзела на ўсю лаву.

*Да героя, нібы ў народнай традыцыі, падводзяць дзяўчат самога featuresрознага ўзросту, аб'ёму, вагі, колеру. Адвакаты ацэньваюць.*

**AdvocatusDei** 60% мужчын дюбяць пушыстых, як мувяць палякі, кабет. Гэта значыць *(паказвае аб'ёмы рукамі).*

**AdvocatusDiaboli** Астатнія 30% саромеюцца ў гэтым прызнацца.

**Бабця** А дзе яшчэ дзесяць працэнтаў?

**Сваха** Гэта не мужчыны, як і большасць папярэдніх.

**Ён** Вы выбіраеце жонку, нібы карову.

**AdvocatusDiaboli** Параўнанне няправільнае. Карову можна і трэба выбіраць добрую, і без усялякай навукі. А жонку колькі ні выбірай, усё роўна паганая трапіцца.

**Сваха** Гэта калі выбіраць без свахі. Пра карову не скажу, даўно з імі не звязвалася. А вось на вярблюдаў нявест мяняла. А ну, убогі (*звяртаецца да адваката*), прачытай, што там у талмудах з дробнарагатым і бязрогім статкам.

**AdvocatusDiaboli**За дзяўчыну сярэдняй вартасці – калым ад 50 баранаў у залежнасці ад масы нявесты.

**Бабця** А ў залежнасці ад адукацыі?

**AdvocatusDiaboli**У адваротнай прагрэсіі.Чым менш класаў школы, тым болей скаціны.

**Яна** А з дыпломам, тым болей з чырвоным, тым болей філалагічным.

**AdvocatusDiaboli**Бясплатна! Яшчэ ў прыдачу самі даюць авечак, каб толькі забралі.

**Д'яблік**Зусім без баранаў, зусім без калыму

**Сваха** У былыя часы шлюбныя спаборніцтвы ладзілі. Дзяўчат тады цанілі, не тое, што цяпер.

**Яна***(адказвае на пранізлівы званок далькажыка)* Не! Занятая па службе. У мяне ненармаваны працоўны дзень…. І я цябе… Добра.

**Ён** І зноў ты… вы са сваім тэлефонам. Хто гэта ўвесь час турбуе?

**Яна** Знаёмы.

**Ён** Што ён хоча?

**Яна** Сустрэчы. Рамантычнага спаткання ў парку. А потым запрашае ў лепшы рэстаран горада на не менш узнёслую вячэру.

**AdvocatusDei** І чаму ўсе гэтыя закаханыя, нібы злодзеі, робяць свае брыдкія справы толькі ноччу?

**AdvocatusDiaboli** Пра гэта казаў яшчэ Шопенгаўэр: **Посмотрите на этих влюбленных, которые так страсно ищут взаиных взглядов. Почему они так таинственны, так боязливы, так походят на воров? Эти влюбленные – предатели, там, во мраке, они составляют заговор против человечества.**

**Бабця** Ды гэта проста, без усялякай філасофіі. Паміж мужчынай і жанчынай дружба заўсёды слабее з наступленнем ночы.

**Ён***(не чуе маналогу, бо глядзіць на яе новымі вачыма, захапляецца яе прыгажосцю і грацыяй)* А ты прыгожая, зграбная, разумная. І даўно ты…. вы…. з ім?

**Яна** Не. Але ён настойлівы.

**Ён** У запрашэннях?

**Яна** Не толькі.

**Ён** А я вас не адпушчу. Мне трэба сакратарка сёння вечарам.

**Яна** А вы мяне спыталі?

**Ён** Не. І не буду. Я так вырашыў.

**Яна** Даўно?

**Ён** Гэта не істотна. Галоўнае, я вырашыў так.

**Яна** Тады я не пайду.

**Ён** Куды?! Куды не пайду?!

**Яна***(маўчыць)* Куды скажаце. Бо вы сталі зусім іншым. Вы, аказваецца, разумны і інтэлігентны чалавек, які так многа ведае і любіць людзей.

**Ён** Праўда!? Ніколі нават не здагадваўся. А можна я цябе запрашу сёння ў лепшы рэстаран горада? А потым у парк. Паглядзім на лебядзяў, пакатаемся на арэлях.

**Бабця** На восліках.

**Яна** Дык і вы рамантык? Ніколі не здагадалася б.

**Ён***(самазадаволена)* Так. І я нават не ведаў, што марыў жыць у рыцарскія часы, калі ўсе высакародныя мужчыны мелі самыя ўзвышаныя пачуцці да сваіх…

**Яна** Коней… Але ж у вас так многа спраў сёння.

**Ён** Мы іх там і вырашым. Тым болей, ёсць вельмі важная справа, якую мы можам вырашыць толькі ўдвух.

**Яна** А што мне сказаць таму *(звініць званок)* знаёмаму?

**Ён** Скажы... Скажыце... Скажы, што зямля круглая, што вёсны прыходзяць на змену зімам, што бараны патаннелі *(раптоўна і нечакана для самога сябе)*. Скажы, што выходзіш замуж.

**Яна** Я з радасцю, але за каго?

**Бабця** Некалі так Хэмінгуэй, класік амерыканскай літаратуры, і прадыктаваў сваёй сакратарцы – выходзь за мяне.

**Сваха** І я таксама класік, нічога, што ў іншай сферы. Таму дазваляю сказаць гэтыя словы, якіх ужо ўсе чакаюць.

**Ён** Выходзьце за мяне замуж.

**Яна** Я згодна.

**Ён** Толькі без шафаў, без кніжак, без бібліятэк, без навукі і юрыспрудэнцыі. **VivamusmeaLesbia, atqueamemus** – Будзем жыць і любіць, мая Лесбія.

**Бабця** І без баранаў.

**Адвакаты** Мы пратэстуем.

**Ён** Без свацці.

**Сваха** Пратэстую. Ах, як хочаце, бо грошы вы мне ўсё-такі заплаціце.

**Ён** І без латыні, велічнай, але нікому не патрэбнай у наш час.

**Яна** Згода. *(падае яму руку)*

**Чуюцца галасы** Жаніся, каб было куды дурасць пхаць;
Жаніся – каб дурні не перавяліся.
Горка!!!

**Advocatus** Чамусьці ўзялі моду завяршаць усё шчаслівым вянцом. Гэта ўсё роўна, нібы раман пра падарожных завяршаць тым, як яны трапляюць у рукі піратаў-карсараў. А тут і пачынаецца самае цікавае. Але хто ж нас слухае?! Горка! Хай жывуць кнігі, якія яднаюць сэрцы, тым ці іншым, класічным або  новачэсным спосабам. Горка!

*Усе пускаюцца ў скокі. З'яўляюцца ўсе ўдзельнікі балетаў, танец жывата суседнічае з "Лявоніхай", салёныя прыпеўкі перабіваюць класічныя арыі ў гонар Гіменэя.*

ЗАСЛОНА